Цана асобнага нумару 20 грош.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№ 1 Вільня, Субота, 19-га чэрвеня 1926 г. Год I.



**На падставе ўмовы з рэдакцыяй „Беларускае Справы", якая дзеля тэхнічных прычын ня здолела на гэтым тыдні выпусьціць другі нумар, усім падпішчыкам „Беларускае Справы" рассылаецца гэты нумар „Народнае Справы".**

## Недастойны флірт.

Адзін польскі абшарнік, гаворачы з беларускім паслом, выразіўся даслоўна гэтак:

— „Я заўсёды быў праціўнікам Пілсудскага, але цяпер стаўся пілсудчыкам: бо-ж Пілсудскі прынамся ўзьдзеў мужыкам наморднік!...."

Так адчулі на практыцы вынікі маёвага перавароту „нашы" абшарнікі. Блізу такімі-ж славамі „славасловіць" марш. Пілсудскага віленскі орган „зубраў"—„Słowo". А каму-ж, як ня самым абшарнікам, ведаць, наскольки ўзмацавалася іхняя ўлада на вёсцы ад часу стварэньня ўраду „маральнае санацыі"?!

З другога боку, ведаюць гэта і сяляне. І мы з розных канцоў краю атрымліваем карэспандэнцыі з новымі жальбамі і нараканьнямі на выступленьні адміністрацыйнае ўлады ў выпадках спорак паміж сялянамі і абшарнікамі,—выступленьні, якія бароняць не інтарэсы сялян, а выключна абшарнікаў....

Адначасна паднялі галаву і польскія фабрыканты і заводчыкі па мястох: яны прост правакуюць работнікаў да забастовак, у часе якіх так сама выступае паліцыя—з вынікамі, падобнымі да астравецкіх.... Лічба канфліктаў і забастовак на груньце адносінаў прамыслоўцаў да працоўных расьце з кожным днём.

Так зразумелі прадстаўнікі польскае буржуазіі заяву марш. Пілсудскага аб яго імкненьні да захаваньня істнуючае ў Польшчы „сацыяльнае раўнавагі". У такім духу тлумачае сабе і адміністрацыя, баронячы ўсімі даступнымі ей спосабамі пануючыя сацыяльныя адносіны....

Калі на фоне панаваньня пэпээсаўскаабшарніцкае коаліцыі орган „нашых" ксяндзоў „Biełaruskaja Kryniсa" мог будзіць у нашага сялянства надзею, што ў працягу двух гадоў мы пад Польшчай „мусім" заваяваць сабе ўсе належныя нам правы,—ну, дык тут была выразная мэта: адвярнуць вочы нашага народу ад ненавіснага ксяндзом наагул, бо бальшавіцкага, Менску. Трудней зразумець палітыку нашых нібы-то „чыстых" незалежнікаў—паноў Ярэміча і Рагулі, якія ў мамэнт выяўленьня запраўднага курсу новае ўлады ў Польшчы атрымліваюць ад польскае нацыянальнае лявіцы розныя „канцэсіі" (уступкі)... *на славах*, ды запаўняюць страніцы свайго органу „Сялянская Ніва" сваімі „дамаганьнямі", якія пазбаўленыя ўлады пэпээсы і камп. „абяцуюць" зьдзейсьніць!

Як і калі?!—На гэта адказу, ведама, „Сялянская Ніва" не дае. Але даволі прачытаць гэныя дамаганьні і дэкларацыі тэй-жа лявіцы, пададзеныя намі ў папярэднім нумары, каб зразумець, чаго варт увесь гэны палітычны флірт п. п. Ярэміча і Рагулі з польскімі леванацыяналістычнымі партыямі.

Перадусім—асноўнае пытаньне: права беларускага народу на самавызначэньне.—Адказ на гэтае пытаньне мы ўжо чыталі: паны пэпээсы разам з вызваленцамі і „Хлопскай Партыяй" згаджаюцца наперад на поўную незалежнасьць Беларусі, але... толькі тэй, якая не ўваходзе ў склад Польшчы! Наадварот, для беларускіх зямель, што пад Польшчай, паны лявіцоўцы суляць усяго толькі аўтаномію.... Дый то—памятайце! — выключна *на славах*, бо-ж, паўтараем, у гэты мамэнт паралічаныя партыі ня маюць ніякае ўлады ў Польшчы, а калі мелі, дык нічога падобнага і ня думалі даваць!....

Тое-ж і з усімі іншымі дамаганьнямі п.п. Ярэміча і Рагулі, якія пэпээсы і камп. ласкава абяцуюць здаволіць, хоць ня маюць ніякае магчымасьці зрабіць гэта. А некаторыя з гэных дамаганьняў дык пры сучасных адносінах у Польшчы выглядаюць прост на нейкія жарты: п. п. Ярэміч і Рагуля трэбуюць адчыненьня беларускага гуманістычнага аддзелу ў віленскім унівэрсытэце, беларускага пэдагогічнага інстытуту, дзьвюх вучыцельскіх сэмінарыяў, васьмёх гімназіяў, 412 пачатковых школ і г. д.,—пад той час, як 90 процантаў беларускае інтэлігенцыі аб'яўлена „неблаганадзёжнымі", як усе тыя, хто мог-бы вучыць у ніжэйшых, сярэдніх і вышэйшых школах, пазбаўляюцца права на гэта — і то часта пры магільным маўчаньні беларускае буржуазнае прэсы... Інтэлігентных сіл сярод ксяндзоўскабуржуазных партыяў у нас блізу зусім няма, а ўсіх інтэлігентаў, якія за імі ня йдуць, яны гуртам называюць „бальшавікамі" і наперад даюць уладам „адпушчэньне грахоў", учыненых проці гэных „бальшавікоў".... Дык і зьмест стаўляных панамі Ярэмічам і Рагуляй „дамаганьняў" безадказнай і бяссільнай лявіцы пры істнуючых варунках найлепш паказуе, што аўтары іх самі здаюць сабе справу з нерэальнасьці іх.

А ўрэшце—пытаньне аб зямлі. Паны Ярэміч і Рагуля навет не адважыліся паставіць пры перагаворах з польскай нацыянальнай лявіцай таго дамаганьня, якое напісалі ў праграме „Сялянскага Саюзу". У „дамаганьнях" чытаем: „13. Правесьці зямельную рэформу, прызнаючы зямлю для мяйсцовай люднасьці". Якую рэформу? Ці тую, што ўжо зацьверджана Соймам—аб парцэляцыі зямлі за добрую плату? А гдзе-ж падзеліся ўсе пекныя словы аб надзяленьні бяз платы і выкупу?!...

Як бачым, „дамаганьні" п. п. Ярэміча і Рагулі маюць ня большую вартасьць, як падпісаныя надовячы „вэксалі" польскае нацыянальнае лявіцы *). Яны толькі могуць выклікаць у нашых народных масах зусім абмылковае ўражаньне, быццам нехта нешта запраўды хоча ім даць... А пад той час, як ідэалёгі нашай нарастаючай буржуазіі „трэбуюць" ад зусім безадказных і бяссільных польскіх партыяў „перастаць арыштовываць і прасьледаваць беларусаў праз адміністрацыю і паліцыю",—запраўдная ўлада толькі ўзмацоўвае „палітыку цьвёрдае рукі" і ўзьдзяваньня мужыком намордніку....

Ці-ж пры такіх варунках мае які сэнс ведзены панамі Ярэмічам і Рагуляй „флірт" з левымі польскімі нацыяналістамі? І ці-ж падобны „флірт" не паніжае тых, хто ім займаецца?!....

*) Злыя языкі кажуць, што паны Ярэміч і Рагуля ў часе перагавораў з польскімі партыямі „забыліся" і аб амністыі!... Пункт аб гэтым у „Сялянскай Ніве" ўстаўлены быццам пасьля.

## Сойм і Урад.

(*Да перагавораў марш. Ратая з клюбамі Сойму*).

Урад Бартля мае быццам на 22-га чэрвеня склікаць Сойм, якому мае падаць на зацьверджаньне рад падрыхтаваных ужо—вельмі важных праектаў.

На першым мейсцы з іх стаіць праект зьмены Канстытуцыі, аб якім мы ўжо пісалі. Пасьля—неадкладнай справай зьяўляецца зацьверджаньне хаця-б часковага бюджэту на трэці квартал бягучага году. Аб нармальнай дыскусіі аб усім бюджэце сучасны „канстытуцыйны ўрад" навет і ня думае.

Трэба, коратка кажучы, склікаць Сойм. Але трэба ж і неяк падрыхтаваць ці—„абрабіць" гэты Сойм, каб яго праца йшла лёгка ды гладка, прасьцей кажучы—каб Сойм зрабіў усё, што яму загадае ўрад, ці той, хто стаіць за ім... Бо-ж ведама: на тое Сойм і пакінуты ў цяперашнім сваім складзе „зьненавіджаным усім грамадзянствам і народам", як казалася яму проста ў твар, марш. Пілсудскім, а не разагнаны,—каб ён рабіў усё, што яму прыкажуць... Калі-ж не, дык будуць... — „жондзіць батам"...

---

І вось даручэньне падрыхтаваць усё „канстытуцыйна" і дадзена марш. Сойму Ратаю. Ён і пачаў гутарыць з правадырамі соймавых групаў аб тым, як правесьці гладка „праграму ўраду" праз Сойм. Праграму гэтую даў у кароткім экспозэ прэм. Бартэль. Выдалі ўжо ведамыя чытачом адозвы ў зьвязку з тым жа і соймавыя партыі. Але, пакуль што, здаецца, задача, якую—пад пагрозай істнаваньня Сойму — мае вырашыць яго спрытны старшыня, навет для яго спрыту прадстаўляецца невырашымай.

Запраўды ж.—Правіцу неяк быццам, прынамся „маральна",—зусім разграміў спраўца перавароту, стварыўшага новы ўрад. Але таксама і амаль ня ўсю лявіцу „адсунулі" спраўцы перавароту ад усялякага ўплыву на ўрад у Польшчы... Дык—як пабітая правіца, так і пагарджаная лявіца, абедзьве ў Сойме так ці інакш—проці ўраду!.. Аб нацыянальных меншасьцях дык ужо і казаць няма чаго. Дык, інакш кажучы, Сойм можа ўвесь, прынамсь, калі судзіць аб „настроях" ды „адозвах" клюбаў, — аказацца аднэй сплашной апазіцыяй!..

„Канстытуцыйны" ўрад ня мае быццам ніякай апоры (большасьці) ў Сойме.

Але на дзеле, можа, будзе ўсё—шмат менш страшна.—Можа акурат так, як адбылося ўсё на толькі-што адбыўшымся „паядынку" між генаралам Шэптыцкім і б. прэм'ерам Скшыньскім, якія, страляючыся на 15 крокаў, абодва з сьмяротнай небясьпекі „выйшлі цэлыя". Бо, можа, і тут — у найбліжаючымся „паядынку" Сойму з урадам Бартля—галоўны інтэрас абодвух „байцоў"—у тым, каб абодвум перадусім—„выйсьці цэлымі"...

---

Лідэры эндэцыі былі ўжо першыя ў марш. Ратая. Вельмі ядавіта заявілі яны маршалку, што, паводле парлямантарнай Канстытуцыі Польшчы, на груньце якой стаіць урад, трэба, каб у Сойме адказнасьць за ўрад узяла на сябе—лявіца, якая падтрымала „пераварот", скінуўшы ўрад правіцы... Але вось на дзеле лявіца нешта таксама—у апазіцыі... —Дык—на каго-ж у Сойме мае апірацца „канстытуцыйны ўрад Бартля? Падгатаваўшы гэтак спрытна грунт, паны Гломбіньскі і Сэйда заявілі, што яны ня маюць паўнамоцтваў гарантаваць нешта ўраду, але думаюць, што з іх партыяй можна было б неяк дагаварыцца, калі-б адначасна з справай зьмены Канстытуцыі ўрад высунуў і справу зьмены выбарнага закону... Бо гэтыя справы—цесна зьвязаны адна з аднэй.—Бо,—калі зьмена Канстытуцыі мае мэтай зрабіць у Польшчы вельмі моцную выканаўчую ўладу, дык адпаведнай зьменай — выбарнай ордынацыі трэба-ж забясьпечыцца, каб гэтая моцная ўлада ў Польшчы засталася выключна—у польскіх руках...

Дык вось, гандаль з урадам эндэцыі, выступаючай, як ведама, як авангард усей правіцы, пры пасярэдніцтве марш. Ратая,—ужо распачаўся. Цана, за якую правіца гатова прадаць ураду сваю „апазыцыйнасьць" у Сойме, пастаўлена ясна і выразна. Зьмена выбарнага закону — такая, каб у прышлым Сойме ня мелі навет тэй сілы, як у гэтым,—нацыянальныя меншасьці. А — каб яшчэ падкрэсьліць цану і небясьпеку сваей апазіцыі ў Сойме і ў краі, эндэкі дадалі, што яны на паседжаньні Сойму ня будуць магчы ўстрымацца ад інтэрпэляцыі у справе — увядзеньня выняткавага стану на Паморы і пагрозы ўвясьці тое-ж—у Пазнаншчыне.

---

З другога боку „апазіцыя" польскай лявіцы згаджаецца даць мацнейшую ўладу і паўнамоц-

твы Прэзыдэнту, але —пад варункам: пакінуць нязьменнай выбарны закон!..

Прэм. Бартлю прыдзецца выбіраць ізноў між лявіцай і правіцай. А можа — і ня прыдзецца. Можа, ён спрытна пагодзіць іх усіх — пагодзіць перадусім, дараваўшы ім усім жыцьцё, пакінуўшы пакуль-што гэты Сойм?

Урад Бартля, здаецца, так якраз і мае зрабіць. Няма-ж патрэбы цяпер зьмяняць выбарны закон, калі ня зьбіраюцца рабіць цяпер жа новыя выбары. Цяпер трэба толькі дагаварыцца з правіцай ды з лявіцай аб зьмене Канстытуцыі, чаго ўладна трэбуе сам марш. Пілсудскі, а гэта будзе ўжо зусім лёгка. Каб ім пакінулі пасольскія пэнсіі, дый яшчэ — пад пагрозай „жондаў батам“,— дык чаго ня зробяць людзі, жадаючыя перадусім— на славу „маральнай рэвалюцыі“ ў Польшчы! — выйсьці з „паядынку“, як паны Шэптыцкі і Скшыньскі,—„цало“?!..

# Аб гэтак-званым „Зьезьдзе Заходняй Беларусі“.

Ня першы ўжо раз, як у газэце самога Павлюкевіча, так і ў іншых віленскіх газэтах, падаюцца заметкі аб тым, што ў такі й такі дзень мае адбыцца гэтак-званы „Зьезд Заходняе Беларусі“, які склікаецца ўжо году з паўтара „Тымчасоваю Беларускаю Радаю“. Апошнія абвесткі Павлюкевіча аб гэтым „зьезьдзе“ кажуць аб дні ня то 23-га чэрвеня, ня то 24-га ліпня сёлетняга году. Месцам „зьезду“ называецца нікому невядомая нейкая „Беларуская Хатка“.

Нікому дасюль дакладна невядома, што гэта за новая інстытуцыя п. Павлюкевіча гэтая „хатка“. Злыя языкі кажуць, што яна мае быць нічым іншым, як клюбам для... лёто. Дык значыцца, яна будзе „інстытуцыяй“ таго самага роду, што й нябожчык беларускі клюб у Вільні пад назовам „Беларускае Грамадзянскае Сабраньне“ п. Валэйшы, стварыўшага цяперашнюю „Тымчасовую Беларускую Раду“ п. Павлюкевіча.

Кожны добра ведае, якія ўплывы сярод беларускага насяленьня мае група п. Павлюкевіча. З народных мітынгаў, навет ім самім скліканых, яго ўжо гоняць вон, а опэруе ён нанятымі элемэнтамі з быўшых сваіх „соратников“ па рабоце ў нябожчыка Барыса Савінкова, які імкнуўся стварыць нейкую „трэцюю Расею“.

Які лік і значэньне гэтых элемэнтаў у беларускім руху? Якімі ідэямі яны кіруюцца ў сваёй працы?

Каб адказ на гэтыя пытаньні кожнаму беларусу быў зусім ясным, трэба ведаць праўдзівую гісторыю мала каму вядомага паўстаньня да жыцьця „Тымчасовае Беларускае Рады“, яе вечныя ўнутраныя крызісы і сягоньняшні яе склад.

Як мы ўжо зазначылі вышэй, „Раду“ гэтую стварыла „Беларускае Грамадзянскае Сабраньне“ з п. Валэйшаю на чале.

Што-ж гэта было за Сабраньне?

Гэткае пытаньне здавалася-б мо‘ крыху й лішнім. Дзеяльнасьць гэтага Сабраньня лішне ўжо добра вядома на віленскім бруку, каб на яго варта было адказваць шырока. Аднак-жа ў глухіх кутках Наваградчыны, як напр. у быўшай „рэзыдэнцыі“ п. Павлюкевіча м. Сіняўцы, мо‘ хто дакладна й ня ведае пра быўшае Сабраньне.

Даволі ўспомніць, што на нядаўным працэсе аб надужыцьцях у віленскай мястовай паліцыі быўшага камэнданта гэтай паліцыі п. Толпыгі і іншых, абвінавачаных у хабарніцтве, пракурор Апэляцыйнага Суда ахарактэрызаваў „Беларускае Грамадзянскае Сабраньне“ коратка: „Klub Białoruski było to zło, które władze administracyjne tolerowały, by zwalczać inne zło“... *).

Карыстаючы з прыхільнасьці польскіх адміністрацыйных уладаў, п. Валэйша проста вёў газардовую ігру ў карты ў сваім „Сабраньні“, што нарэшце, пасьля вострых выступленьняў чэснае часткі варшаўскае прэсы, было сцьверджана пратакулярна, і „Сабраньне“ па загаду ўладаў было зьліквідована.

Трэба да гэтага дадаць, што колькі дзён назад віленскія газэты падалі аб тым, што нядаўна адбыўся навет суд над быўшаю Управаю Сабраньня пп. Валэйшай, Більдзюкевічам і іншымі, абвінавачваным ў вядзеньні шулерні. Суд адложаны да вызаву сьведкаў.

Пэўная рэч, што п. Валэйша, маючы „Грамадзянскае Сабраньне“ для гэтак ясных цяпер кожнаму асабістых мэтаў, ня мог управіцца з узятаю на сябе роляй палітыка-полёнофіла.

І вось „Грамадзянскае Сабраньне“ пачало пісаць у тагочасным сваім органе „Грамадзкі Голас“ аб патрэбе беларускае канфэрэнцыі ў Вільні. Канфэрэнцыя гэта была вызначана ў пэўны тэрмін, а напярэдадні яе ў некаторых, лоўкіх на сэнсацыі, віленскіх газэтах хітра раздуваўся лік прыяжджаўшых на канфэрэнцыю дэлегатаў. Гэтак напр., „Виленское Утро“ называла цыфру ў 400 чалавек.

А сапраўды, дык дэлегатаў, разам з сябрамі „Грамадзянскага Сабраньня“ было ўсяго толькі... 9 (выразна: **дзевяць**): пп. Валэйша, Більдзюкевіч, Кабычкін, Лапа-Старжынецкі, Шышкоў, Мірскі, Канапацкі, Павлюкевіч і адказны рэдактар „Грамадзкага Голасу“ нябожчык Язэп Салавей.

У створанай гэтаю канфэрэнцыяй „Часовай Беларускай Радзе“ (натуральна пахаваўшай у сваім лоне ўсю канфэрэнцыю цалком) прэзэсам быў выбраны Павлюкевіч.

Праз нядоўгі час п. Павлюкевіч, па неаднакротных унутраных „крызысах“ Рады і „сэцэсіях“ з яе сяброў, давёў яе лік да мінімуму, пры якім яна істнуе ўжо больш як год. Фактычна ў склад „Ч. Б. Рады“ ўваходзіць сам „прэзэс“ яе Павлюкевіч і пп. Кабычкін ды Якімовіч.

Што-ж гэта за „тры кіты“, на якіх спачывае цяперашняе казённае беларускае полёнофільства?

Усё гэта асобы, якія пару гадоў навет назад, у беларускім руху былі саўсім нікому невядомымі, ці, як і сам Павлюкевіч падчас Слуцкага паўстаньня,—мала заметнымі (ён там спаўняў функцыі лекара І-е Беларускае брыгады). Яны цяпер і зьяўляюцца як-бы ініцыятарамі „беларускае“ канфэрэнцыі, якую гучна ахрысьцілі „Зьездам Заходняе Беларусі“.

Для характэрыстыкі ініцыятараў „Зьезду Зах. Беларусі“ ягомасьцяў Павлюкевіча, Кабычкіна і Якімовіча гожа яшчэ прыпомніць паважанаму чытачу, што ўсё гэта „героі“ гэтак званае расейскае Вандэі з эпохі хатняе вайны на тэрыторыі быўшае Расейскае Імпэрыі. Павлюкевіч опэраваў з Савінковым, Якімовіч быў палкоўнікам у Дэнікіна, а Кабычкін дык проста рабіў нешта ў „бацькі“ Махно.

Хай кожны судзіць, што гэта за „беларуская“ была праца...

Рэвалюцыя і страшэнная хатняя вайна ў быўшай Расеі наплядзіла цэлую стаю розных палітычных простытутаў, кожны лаўкач стараўся опэраваць на якім-небудзь расейскім контр-рэвалюцыйным фроньце. Чаму-ж не маглі апынуцца сярод гэтых лаўкачоў і сыны Беларусі?! Але што за карысьць ад іхняе лоўкасьці бяздольнаму нашаму працоўнаму народу?

І народ гэты, у яго нармальным разуменьні, на лоўкія штучкі Павлюкевічаў ды Кабычкіных ніколі ня пойдзе, — наадварот, будзе гнаць іх ад сябе, як гнаў Павлюкевіча на мітынгу ў Баранавічах. Наша сялянска-работніцкая народная маса ня можа верыць самай спрытнай лісьлівасьці тых, хто хоча спэкульнуць на нашай народнай цемнаце, бо мы, хоць і цёмныя, але-ж ня дурныя, ня зьехаўшыя з глузду, каб не разумець сваіх уласных, як нацыянальных, так і сацыяльных, інтарэсзў. Усё здаровае, што толькі ёсьць у нашым няшчасным народзе, адкажа на заклік палітычных спэкулянтаў абсалютным байкотам.

І гучны „Зьезд Заходняе Беларусі“, які хоча склікаць гэтак-званая „Часовая Беларуская Рада“ ў Вільні, магчыма, што й зьбярэцца, нарэшце, або ў ліку дзевяцёх асоб, як некалі ў Валэйшаўскім Сабраньні, або навет і ў большым ліку быўшых савінкоўскіх „молодцов“, ваяваўшых за „трэцюю Расею“ разам з Павлюкевічам, з якім кожнаму чэснаму беларусу, незалежна ад яго партыйнасьці, не па дарозе. Калі-ж які наіўны беларус і надумаецца паехаць на гэты зьезд і высказаць тое, што думае ўвесь наш працоўны народ,—дык хай ведае, што за такую шчырасьць і наіўнасьць перад „дабранай кампаніяй“ п. Павлюкевіча лёгка можа апынуцца.... на Лукішках!..

Вось і ўсё, што можна сказаць аб будучым павлюкевічаўскім „Зьезьдзе“.

Калі-б варункі для гэтага зьезду, запраўды свабодна скліканага, насьпелі, дык напэўна яго склікалі-б нашыя паслы—выбранцы ўсяго беларускага насяленьня Польшчы.

Але аб гэтым нешта нічога ня чуваць.

*) „Беларускі Клюб—гэта было зло, якое адміністрацыйная ўлада дапускала, каб змагацца з другім злом“ (—разумей: з беларускім рухам!),

# У Польшчы.

### Зьмена Канстытуцыі—за „чорнай кавай“.

Міністар Макоўскі запрасіў найвыдатнейшых паслоў і сэнатараў Сойму да сябе на смачную „чорную каву“, — за якой мае быць дакладна абгавораны праект зьменаў Канстытуцыі, — каб як найлягчэй прайшоў праз Сойм...

### Частковы бюджэт на тры месяцы.

Урад сьпешна працуе над прэлімінарным бюджэтам на далейшыя 3 месяцы с. г. Як мы пісалі ўжо, расходны бюджэт мае быць павялічаны,—бо асыгнаваны дадатковыя крэдыты на армію.

### Прэм. Бартэль выйшаў з Клюбу Працы.

Каб не сьцясьняць сябе ў сваей кіраўнічай урадавай працы, старшыня Клюбу Працы, п. Бартэль, заняўшы становішча галавы ўраду, выйшаў з складу Партыі Працы... Дык цяпер Партыя Працы можа панам Ярэмічу і Рагулі суліць ўсё, чаго ім хочацца: п. Бартэль за іх вэксалі плаціць нікому ня будзе!

### Новы міністар чыгункі—хадэк.

Назначэньне на становішча міністра чыгункі партыйнага хадэка (карфантчыка!) Ромоцкага выклікала „вялікае ўражаньне“ сярод лявіцы, а навет сярод кругоў, блізкіх да марш. Пілсудскага, якія падалі мэмарыял пратэсту проці назначаньня ўсьцяж міністраў—з людзей правіцы...

### У камісіі „крэсавых рэчазнаўцаў“.

Міністар унутран. спраў Млодзяноўскі сьпешна склікаў на працу так званую „камісію рэчазнаўцаў“ у справах меншасьцяў і „крэсаў“ пры Палітычным Камітэце Рады Міністраў. У склад камісіі, як ведама, уваходзяць: галіцыйскі жыдадвакат Левэнгэрц—для спраў украінскіх зямель, эндэцкі пасол з Віленшчыны Зьвежыньскі (запраўды-ж прадстаўнік зьвярынага нацыяналізму!)—для спраў Беларусі—і як агульны „ідэалёг“ меншасьцёвай палітыкі—адстаўны пэпэзсавец п. Л. Васілеўскі. Камісія пачала сьпешную працу — пад старшынставам мін. Млодзяноўскага, як заступніка самага прэм. Бартля.

Крыху—гісторыі. Камісія ў гэткім папросту жываедзка-крыўдным для меншасьцяў складзе, як ведама, складзена ня кім іншым, як самім Стан. Грабскім... А вось новы ўрад „маральнай рэвалюцыі“ ды ўсялякіх лявіцовых камплімэнтаў меншасьцям зьмяніў у камісіі адно толькі — яе старшыню, даўшы ёй заместа п. Тугутта — пана Млодзяноўскага...

Паважаная пані польская лявіца! Ці ня ў гэтай эндэцкай кузьні мае выкоўвацца—„аўтаномія“ ды „ідэалы незалежнасьці“ ў Польшчы для беларусаў і ўкраінцаў?!

### Асабістая сэкрэтарка ваеннага міністра Пілсудскага.

Газэты пішуць, што асабістай сэкрэтарцы міністра Пілсудскага, якой ён назначыў нейкую паэтку Ілаковіч, ён загадаў плаціць палкоўніцкую пэнсію. Калі паны афіцэры ў міністэрстве знайшлі гэта—„неадпаведным“, тады марш. Пілсудскі загадаў выдаваць ей пэнсіі з так званага „дыспазыцыйнага фонду“, якім кожны міністар можа распараджацца—безадчотна (—напрыклад, з такога-ж фонду без усялякай справаздачы распараджаецца мін. унутраных спраў і паліцыі, выплачываючы кошты ўтрыманьня „дохтара“ Паўлюкевіча, яго кумпанаў і іх газэту „Беларускае Слова“).

### Высокія паны крыху пачубіліся.

У Варшаве ў казармах адбылася дуэль на пісталетах (запраўдных, што навет — страляюць!) між графам Скшыньскім, былым прэм'ерам, і генар. Шэптыцкім. П. Скшыньскі выклікаў „да бар‘еру“ ген. Шэптыцкага за тое, што той не падаў графу рукі—відаць,—у зьвязку з „пераваротам“.

Паядынак адбыўся, як амаль ня ўсе дагэтуль адбываўшыяся ў Польшчы,—бяскроўна,—бо-ж, ведама, высока-ганаровыя паны жыцьцё і здароўе берагуць ня менш, як гонар...

### У Варшаве абрабавана італьянскае пасольства.

У гмах італьянскага пасольства ў Варшаве забраліся ўначы зладзеі-спэцыялісты ды што называецца „ачысьцілі“ ўсю кватэру.

Але назаўтра варшаўская паліцыя знайшла ўсіх зладзеяў, якія пачалі ўжо дзяліць дабычу. Калі рабуюць прастых сьмяротных, дык зрабаванае знаходзіцца, як ведама кожнаму, — вельмі рэдка...

# Заграніцай.

### Адстаўка ўраду Брыяна і — новы яго-ж урад.

Міністар фінансаў францускага ўраду, а за ім і ўвесь габінэт Брыяна падаліся ў адстаўку. Прэзыдэнт прыняў адстаўку і зараз жа даручыў фармаваньне новага габінэту—таму-ж Брыяну.

Новы—ужо трэці падрад — габінэт Брыяна мае быць яшчэ больш правы, як папярэдні. Дзіўная рэч, што вялікая перамога ўсей радыкальнай лявіцы на апошніх выбарах дасьць цяпер у выніку, як спадзяюцца, — блёк радыкалаў ужо не з сацыялістамі, як у першыя часы пасьля выбараў, але—з нацыяналістамі, з правіцай.

Новы габінэт Брыян мае тварыць пад лёзунгам— „нацыянальнага аб‘яднаньня“, ці папросту—згуртаваньня сілаў усей францускай буржуазіі. Розныя пекныя лёзунгі лявіцы патрэбны былі толькі ў часе выбараў, а пасьля радыкальна імпэрыялістычная буржуазія хутка адпіхнула ад сябе сацыялістаў. Сацыялісты сьпярша востра паставілі свае варункі ўчасьця ў уладзе, а калі гэтыя варункі былі адкінуты буржуазнымі радыкаламі, сацыялісты на кангрэсе вялізарнай большасьцю 2.250 галасоў проці 685 — пастанавілі ня прымаць учасьця ў буржуазных урадах. На дадаткавых выбарах у Парыжу сацыялісты, як ведама, падтрымлівалі ўжо камуністаў, якія й пабілі ўсіх сваіх буржуазных кандыдатаў. Гэткім чынам аб‘яднаньне і ўзмацаваньне буржуазіі ў краі зьяўлялася на чарзе дня. Пабеднае аканчаньне марокскай вайны дадало буржуазіі новага духу, і цяпер гэтую задачу „нацыянальнага аб'яднаньня“ мае выпаўніць той-жа самы гібкі на ўсе бакі—Брыян.

Склад яго габінэту яшчэ няведамы.

### Адказ Чычэрына англійскаму ўраду.

На востры, амаль не ўльтыматыўны пратэст англійскага ўраду проці падтрыманьня радавым урадам англійскіх забастоўшчыкаў-вуглякопаў, Чычэрын адказаў спакойнай нотай, у якой заявіў, што ў СССР няма забароны пасылаць грошы заграніцу. Дык калі Праф-Саюзы СССР пасылаюць грошы такім-жа арганізацыям іншых краёў на падтрыманьне супольнай акцыі, дык гэта іх справа, у якую радавы ўрад умешывацца ня можа. А сам радавы ўрад грошаў англійскім вуглякопам не высылаў.

### Італьянская пазыка Румыніі.

У выніку заключэньня новага фінансавага трак-

тату, рэгулюючага даўгі Румыніі ў Італіі, італьянскі ўрад гарантаваў Румыніі пазыку 200 мільёнаў ліраў.

Пазыка, здаецца, забясьпечана румынскай нафтай.

### Марокская канфэрэнцыя і англійская перасьцярога Італіі.

Францыя з Гішпаніяй, як ведама, наладзілі канфэрэнцыю, — каб падзяліць між сабой ваенны „луп" сваей супольнай перамогі над Абд-Эль-Крымам.

Мусоліні даўно ўжо пільнаваў мамэнт, калі можна будзе ўмяшацца ў дзяліцьбу, і цяпер распачаў крокі ў гэтым кірунку. Дый, як выясьнілася з архіву Крыма, італьянскі ўрад найбольш памагаў яму ваяваць проці Францыі. Але, як пісалі толькі-жто, між Францыяй і Англіяй адбылося паразуменьне аб тым, каб адна не перашкаджала аднэй — у Марокко і ў Ягіпце. Дык Англія востра заявіла Італіі, каб тая ня ўмешывалася ў „канфэрэнцыю" Францыі з Гішпаніяй, — бо ўсё роўна нічога з дабычы переможцаў не дастане.

Як на гэта зарэагуе Мусоліні, яшчэ няведама.

### Самагубства Чхэідзэ.

Як паведамляюць з Парыжу, былы старшыня Рады Работніцкіх Дэпутатаў Чхэідзэ, які ўцёк пасьля заграніцу, сам перарэзаў сабе горла нажом. Жонка, заўважыўшы гэта, кінулася да яго, каб перашкодзіць яму, але муж ужо здалеў парэзаць сябе так, што праз некалькі дзён памёр.

## ХРОНІКА.

**Мітынг у Пінску.** 21 гэтага месяца паслы Сялянска-Работніцкай Грамады ладзяць у Пінску мітынг. Кожны селянін, які хоча пачуць праўду аб тым, што робіцца ў Польшчы ды даведацца, якімі шляхамі трэба змагацца за свае правы, павінен прыйсьці на гэты мітынг.

**Яшчэ аб Мамоньку.** Весткі, пададзеныя польскай прэсай і паўтораныя беларускай, што нядаўна прыехаўшы ў Вільню беларус Мамоўка вёў перагаворы з дэфэнзыўнай „Часовай Радай"— відаць, праўдзівыя. Мамонька не адважыўся пададаць спраставаньне ў польскія газэты.

Затое інфармацыі аб нейкіх „упаўнаважаньнях" для яго з боку літоўскага ўраду—афіцыяльна міністэрствам заграгічных спраў Літвы запярэчаны.

Мамоньку выпісалі проста сюды для барацьбы з „Сял.-Работн. Грамадой" ды ўзмацаваньня „доктара" Павлюкевіча.

**Зьезд „Часовай Рады" адложаны.** Як пішуць газеты, Павлюкевіч, ня маючы змогі ніяк сабраць сабе „дэлегатаў" з вёсак ды апраўдацца гэтакім чынам з сваей работы перад урадам, узноў „адлажыў" зьезд „Тымчасовай Рады". Мае ён адбыцца ня 23 г. месяца, а 27.

**Падзяка за календар.** Сяляне в. Рачканы, Ляхавіцкай гм., Баранавіцкага пав., складаюць шчырую падзяку выдаўцом гэтак доўга чаканага беларускага адрыўнога календара на 1926 год і жадаюць лепшых варункаў для ўлажэньня і выданьня гатакага-ж календара на наступны 1927 г.

**Падзяка.** Глыбоцкая Акружная Школьная Управа прыносіць ніжэйпададзеным грамадзянам шчырую падзяку за ахвяраваньне грошы на будоўлю школьнага гмаху пад гімназію ў Глыбокім.

1) А. Уласаў за — 5 зл., 2) П. Мятла—100 (сто злотых), 3) Б. Тарашкевіч—50 зл., 4) В. Рагуля — 10 зл., 5) С. Рак.-Міхайлоўскі—10 зл., 6) Галавач—5 зл., 7) кс. А. Станкевіч—5 зл., 8) Ф. Ярэміч—5 зл., 9) П. Валошын — 20 зл., 10) А. Назарэўскі — 5 зл., 11) А. Аўсянік—5 зл., 12) Войцюк — 5 зл., 13) Прыступа—5 зл., 14) Пашчук—5 зл., 15) Махнюк—5 зл., 16) Дуброўнік—5 зл., 17) Адамовіч—5 зл., 18) Сабалеўскі — 10 зл., 19) Р. Астроўскі — 30 (трыдцаць зл.), 20) А. Коўш — 10 зл., 21) Я. Шнаркевіч — 5 зл., 22) Ігнат Мятла—6 зл. Скарбнік Вера Дрозд.

**Справа пашпартоў.** Міністэрства ўнутраных спраў выдала распараджэньне, згодна з якім урады павінны не рабіць труднасьцей пры выдаваньні пашпартоў. Распараджэньне не адносіцца да тых асоб, якія знаходзяцца пад даглядам (тайным—рэд.) паліцыі.

**Экзэкуцыя нядоімкі 1 гроша!** Навет абшарніцкае „Słowo" абурана зьдзекамі над нашым насяленьнем пры спагоне падаткавае нядоімкі. Так, паводле слоў газэты, у Валожыне адбылася экзэкуцыя нядоімкі ў суме... 1 гроша (выразна: **аднаго** гроша)! А сколькі гэны грош абыйшоўся падатніку — разам з коштамі экзэкуцыі?!...

**Скаргі на сэквэстратараў.** Чытаем у „Słowie" (№ 137), што ў Скарбовую Палату наплываюць увесь час скаргі на сэквэстратараў.

Так, нейкі пан Стайкевіч з II скарбовага ўраду пабіў уласьніцу крамкі на Завальнай вуліцы—Беляўскую.

На гэтага-ж самага сэквэстратара жаліцца А. Тартын, ад каторага ён вымагаў падатак, ня гледзючы на тое, што начальнік скарбовага ўраду адлажыў Тартыну аплату на нейкі час.

**Адстаўным урадоўцам (эмэрытам) ня плоцяць пэнсіі.** „Дзен. Віл. „абураецца на тое, што ўрад ня плоціць пэнсіяў адстаўным урадоўцам. Вось ужо прайшло больш паўмесяца, а гэтыя эмэрыты сядзяць галодныя бяз грошы. Раней плаціла Віленская Скарбовая Палата, а цяпер узяў гэтую чыннасьць на сябе беспасрэдна Варшаўскі Аддзел.—Узяў дый сядзіць бясчынна... Што-ж, — відаць, больш патрэбны грошы для тых, чыя кроў—даражэйшая...

**Выезд у Францыю.** 26 г. м. будуць сьпісываць усіх работнікаў і работніц, жадаючых выехаць у Францыю на сельска гаспадарчую працу.

Выехаць могуць толькі земляробы, мужчыны ад 27—45 гадоў і жанчыны ад 21 году. Маладзейшыя хлапцы павінны выстарацца сабе спэцыяльны дазвол ад РKU.

Кожны мусіць мець на дарогу 30 зл. Яўляцца трэба ў канцэлярыю „Państwowego Urzędu Pośrednictwa pracy" (Завальная 2) ў Вільні.

**Узноў кража ў паліцыі.** 15 г. м. ў віленскім судзе разглядалася справа чыноўніцы V камісарыяту дзяржаўнай паліцыі, якая ўкрала некалькі тысяч злотых казённых грошы.

Чыноўніцу засадзілі на год у вастрог, залічаючы ёй дзевяць месяцаў сьледчага арышту.



## Скарга селяніна.

Прышла вясна... Бязхлеб'е душыць...
Дзяцей галодных ня уняць!
А матка дзе? Няйначай, мусіць,
Пашла крапіўкі назьбіраць.

Даўно ўжо хлеб яны жавалі, —
Панадай ён ў ваччу стаіць! —
І крапіву адно хлябалі
Нізчым, бо нечым падбяліць.

Кароўку мелі—ну, з казіцу,
Дык за падаткі прадалі....
А што самым?—ты пі вадзіцу!
Вось да чаго мы дажылі.

Зямліцы маем: шнур—два крокі,
Што не праедзеш з бараной;
Па дзесяць хат на паўвалокі, —
Дык дзе-ж той хлеб тут, браце мой!

О, як-жа доўга мы чакалі:
Вось-вось зямліцы нам дадуць, —
Бо-ж гэтак моцна абяцалі,
Што ўраз рэформу правядуць....

Праводзяць год другі і... пяты!
„Асады" ў нас, як мак, цьвітуць.....
А беларус?—ня выходзь з хаты,
Бо там паны з паноў жывуць....

Зямліцы досыць атрымалі, —
Яшчэ і грошай ім далі....
Затое-ж з нас падаткі бралі...
Вось дачаго мы дажылі.

Паслы мандатамі таргуюць,
Да сьмерці хочуць іх трымаць —
І галасы сабе вярбуюць.....
А беларусы? Усё маўчаць.

Цярпліва гэтая скаціна:
Яна век будзе ўсіх вазіць....
Дый хто-ж пачуе селяніна,
Калі ён часам закрычыць?

Урад урадам замяняюць,
Другія лепшыя снуюць, —
І ўсе ўсё нешта абяцаюць,
Але наўперад з нас дзяруць...

Адны бюджэт і скарб латаюць,
Праграмы цудныя пяюць...
Другія „гонару" шукаюць,
„Мараль" з крыві людзей куюць.

А ты—галодны, голы, босы —
На іх „афэры" пазірай,
Як там таргуюць тваім лёсам,
І новых ланцугоў чакай.

Але ідзе канец цярпеньням.
Вось хмара цёмная ўстаець:
Магіла будзе ўсім мучэньням,
Іх бура страшная зьмяцець.

**Селянін.**

## Лісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Рэдакцыя і Адміністрацыя беларускае гумарыстычнае часопісі **„Маланка"**, ня маючы магчымасьці даць кожнаму свайму паважанаму падпішчыку і чытачу лістоўны адказ, просіць Вас, Грамадзянін Рэдактар, падаць да агульнага ведама за пасрэдствам сваей найболей папулярнай ў Заходняй Беларусі газэты наступаючае:

1) За апошнія часы рэдакцыя „Маланкі" атрымлівае шмат лістоў, у якіх падпішчыкі скардзяцца, што яны чамусьці „Маланкі" не атрымліваюць, або замест атрымаць усе дагэтуль выйшаўшыя адзіннаццаць нумароў, — атрымалі ўсяго два—тры.

Усе гэтыя лісты былі як найдакладней праўджаны з нашай рассыльнай кніжкай і аказалася, што ўсім нашым падпішчыкам **„Маланка"** аккуратна пасылалася і што прычыны недаручэньня яе адрэсатам вядомы толькі пошце, дзе, як відаць, нейкая шовіністычна—патрыятычная рука затрымлівала далейшы бег **„Маланкі"**.

Стараючыся служыць інтарэсам нашых паважаных падпішчыкаў, зьмянілі мы дасюлешнюю сыстэму пасыланьня на г. з. „ryczałtowano", — у надзеі, што можа цяпер наша часопісь ня будзе гэтак часта гінуць.

2) Дзеля незалежных ад нас матар'яльных і тэхнічных прычынаў змушаны мы часова ў працягу летніх месяцаў выпускаць **„Маланку"** толькі адзін раз у месяц.

Усім падпішчыкам, якія не атрымаюць усіх належных ім нумароў,—падпіска будзе прадоўжана.

3) Заклікаем усё беларускае грамадзянства чынна падтрымліваць нашу маладую часопісь, прысылаючы акуратна падпісную плату, а таксама шырока распаўсюджываць яе сярод сваякоў і знаёмых.

Гумар і здаровы сьмех даюць чалавеку радасьць жыцьцёвую, бадзёрнасьць, падтрымліваюць энэргію і сілы, гэтак патрэбныя ў нашым штодзенным змаганьні.

**Дык кожны, хто беларус, падпісывайцеся на „Маланку".**

**Падпісная цана:** на год 8 зл., на паўгоду 4 зл. на тры месяцы 2 зл. і адзін м ц 1 зл. Заграніцу 2 даляры на год.

Прадаюцца кампдекты **„Маланкі"** за мінуўшыя месяцы №№ 1 — 12 па цане **тры злотых** за камплект.

**Адрэсуйце:** Вільня, Віленская вул. № 12 — 6 **„Маланка"**.

## „Прамень".

Беларуская эміграцыя ў Чэхаславакіі — гэта пераважна студэнцкая моладзь, сялянскія сыны — ад зямлі і сахі,—моладзь, здаровая і крэпкая духова, поўная веры ў свой народ і ў сябе самую. Апынулася яна за межамі Бацькаўшчыны, шукаючы навукі, доступ да якое дома — ў Заходняй Беларусі—для яе зачынены.

Эміграцкае жыцьцё—гэта для моладзі атмасфэра зусім неадпаведная. Асабліва-ж у Празе: тут сабраліся тысячы расейскіх эмігрантаў, якія пакінулі родны край ня дзеля навукі, а затым, што не маглі пагадзіцца з запанаваўшым у Расеі новым ладам — з уладай працоўных. Усе яны — сыны расейскай буржуазіі, якая апынулася ў рэзкай супярэчнасьці з уласным народам, і жывуць адно толькі лятуценьнямі аб павароце да „добрых старых часоў"—часоў панаваньня Мікалая II....

Але беларуская моладзь настолькі далёкая па сваей ідэалёгіі ад расейскай буржуазнай эміграцыі, што нічога супольнага з ёй ня мае. І — хоць і ня ўсе—беларускія студэнты ў сваей большасьці выразна арыентуюцца ў кірунку ідэалу сялянска-работніцкае ўлады. Найлепш выявіўся гэты кірунак у выпушчаным у канцы мая с. г. журнале беларускага паступовага студэнцтва — „Прамень".

Не падыходзім да гэтага першага нумару студэнцкае часопісі з так-званай „фаховай" крытыкай: на гэта прыдзе час, калі выйдзе ўжо некалькі нумароў журнала. Цяпер толькі адзначаем самы факт выяўленьня ідэйнага кірунку нашае паступовае студэнцкае эміграцыі. Кірунак гэты йдзе выразна па лініі **сялянска-работніцкае ідэалёгіі.** А ў кожнай стацьці, у кожным радку відаць глыбокая і гарачая вера **ў будучыну**, жаданьне будаваць гэту будучыну **на новых падставах.**

Для беларускае моладзі **будучына — гэта ўсё:** ў мінулым у яе бадай што нічога ня было, апрача дужа сумных успамінаў аб цяжкіх крыўдах і зьдзеках.... І тое, што нашы маладыя пакаленьні йдуць наперад, углядаючыся ў будучыну, рэзка выдзяляе іх спасярод буржуазнае расейскае эміграцыі, а таксама спасярод тых сваіх—беларускіх групаў, якія ня бачаць новых творчых сіл у беларускім працоўным народзе і жывуць адно водгукамі і малпаваньнем струхлеўшае чужацкае буржуазіі.

Тут, у Вільні, бачым мы тых-жа расейскіх эмігрантаў, якіх прытуліла Польшча. Ёсьць сярод іх і студэнты. Але ўсе яны жывуць адно мінулым, усе яны ня сьмеюць бачыць новае — для іх, дзяцей буржуазіі, незразумелае будучыны. І нечым затхлым, мёртвым вееце ад слоў прадстаўніка гэтае расейскае эміграцкае моладзі ў Вільні, які ў сваей прамове ў „День Русской Культуры" шукаў апоры для гэнае культуры толькі ў памершай без надзеі на ўваскрасеньне **мінуўшчыне.**

Перад намі—два розныя сьветы: сьвет будучыны і сьвет мінуўшчыны. Шчасьлівы будуць тыя, што вызваляюцца ад панаваньня таго, што памерла: **„яны ўнасьледуюць зямлю".** **А. Н.**

---

У № 17 „Сялянскай Нівы", органу „Сялянскага Саюзу", зьмешчана з прычыны выхаду журнала „Прамень" заметка, у якой непапраўныя „сялянскія" журналісты прадаўжаюць сваю палітыку „вынюхіваньня", чаго нямя, і называюць паступовых студэнтаў „камуністамі", „рэкамандуючы" іх гэтак перад польскай уладай і гэтым самым перашкаджаючы вярнуцца на Бацькаўшчыну дзеля працы для свайго народу... А разам з гэтым орган пана Ярэміча пазваляе сабе рабіць гэтай ідэйнай моладзі беспадстаўныя закіды, быццам яна працуе ня дзеля ідэі, а дзеля нейкіх другіх мэт,—дагадвайся: дзеля грошы.

Якраз тое самае пісаў „дохтар" Павлюкевіч у сваім „Беларускім Слове", калі пражская моладзь асудзіла ягоную „працу". Цяпер „Прамень" асудзіў дзеяльнасьць „Сялянскага Саюзу", і вось—адказ на гэта....

Куды вы дакоціцеся на гэтым шляху, паны рэдактары „Сялянскае Нівы"?!

# Карэспандэнцыі.

## Сьвяткаваньне „дня каапэрацыі“ ў Глыбокім.

Пагода і другія абставіны ня спрыялі сьвяту. Каля царквы і касьпёлу, дзе былі вывешаны абвесткі аб сьвяце, ня многа людзёў,—мусіць дождж перашкодзіў. У абвестцы значыцца, што ў памешканьні Глыбоцкага кіно-тэатра будзе прачытаны рэфэрат: „Значэньне Каапэрацыі дзеля працоўных“, што рэфэрат распачнецца ў палове другой гадзіны.

Ня гледзячы на дожд, адзін за другім бягуць людзі да кіна. Сабралася больш сотні. Рэфэрат быў прачытаны сябрам Управы Каапэратыва Сноп“ В. Скуркай. Праслухалі з вялікай увагай.

Як толькі было абвешчана, што сябры Упраў і Наглядных Радаў усіх беларускіх арганізацыяў у Глыбокім запрашваюцца да памешканьня Бел. Каап. Банку, на ўрачыстае паседжаньне, многа з слухачоў скіраваліся туды, дзе было прадоўжаньне абходу.

**Каапэратар.**

## Панскія жарты.

(В. Ядуцына, Дзісьненскага пав.).

Былі хрэсьбіны ў нашага папа. П'юць, пяюць, гуляюць, — ведама, ёсьць за што, бо тутака сабраліся не сярмяжнікі з лапатнікамі, а ўсе папы і настаўнікі з польскіх казённых школ.

Фурману Ігнасю захацелася паглядзець, як гэта п'янствуюць айцы духоўныя. Адчыніў дзьверы, а там быццам яго чакалі, бо не пасьпеў успомніць, як завуць бацькоў, а ўжо баляць і нос, і патыліца і бакі...

Кончылася баляваньне, Ігнась сядае ў санкі, каб адвязьці перапіўшыхся сваіх паноў: „айца“ Яналя і настаўніка Арнатоўскага. Сядае і думае: „Добра будзе, калі толькі заеду дамоў з адным штурмаком, а як не пашанцуе, ды атрымаю болей, то ня вытрымаюць мае старыя косьці“.

Ты, бальшавіцкая твая морда, чаго бармочаш?— чуў Ігнась голас сваіх паноў.

„Плі па камуністу“ — раздаецца каманда „айца“ Яналя....

„Далей — кажа Ігнась — пачуў я стрэл і ўбачыў кроў на кані. Мо' і жыцьцё прыйшлося-б страціць, але паноў „заарыштавалі“ другія фурманы, якія і ўратавалі мяне. Што цяпер пачынаць—ня ведаю. Судзіцца—я бедны чалавек. Жаліцца кансісторыі — таксама дарэмная рэч.

**Падарожны.**

## Нашы вучыцялі.

(Пастаўскі пав.).

Пэўна, кожнаму з Вас ведама, што ніводзін з вучыцялёў — беларусаў, якія былі ў Кракаве на курсах, не працуе тут у нас. Пазаганялі іх у далёкія куткі Польшчы, каб адарваць іх ад мужыкоў — бацькоў, каб ня чулі яны, што робіцца з іх братамі, каб забыліся аб іх ды пачалі служыць панам, а не свайму народу. Да нас-жа прыслалі людзей, каторыя ў Польшчы саўсім працаваць не маглі-бы. Вучыцялі з іх ніякія, яны толькі п'юць ды штрафуюць сялян, хоць на падаткі і бяз гэтага забіраюць у іх апошнюю сярмягу.

У вёсцы Школьнікава, Мядзёльскай гм., мелі мы гэткую „цацку“. Зімой, бывала, зьбяруцца дзеці, чакаюць, пасінеўшы ад холаду перад школай, а клясы адчыніць няма каму. Вучыцель у лясьнічага гуляе, а пасьля яшча падае жалабу інспэктару на асобных гаспадароў, каб паказаць, што работа йдзе!..

Забралі яго, праўда, у нас ды.... зрабілі вучыцелем у суседняй вёсцы—Брусах. Прыехаў ён на Вялікдзень да нашай вучыцелькі, п'яны зусім, нат сядзець ня мог, ляжаў на калёсах. Спадзяваліся, што вучыцелька пагоне яго; але дзе там, чуць вачэй нам пасьля ня выдрала, калі адзін хлопец зрабіў увагу, што гэтакі вучыцель дае благі прыклад. Свой за свайго цягне!..

**Сумны.**

## З жыцьця ў Баранавічах.

12 красавіка ў Баранавічах разглядалася акружным судом справа аб забойстве пэ-пэ-эсам Мастовічам дамаўласьніка Сьлізюка за кватэрную плату. Мастовіча баранілі два адвакаты, у тым адзін з Варшавы.

Ня гледзячы на тое, што Мастовіч, па дакананьню забойства, гаварыў, што „забілэм большэвіка“ і „з моей гловы влос не спадне“, суд аднак засудзіў забойцу на 3 гады дому папраўчага і на заплату іску сям'і забітага па 200 зл. у месяц ад дня забойства да дня суда. Аб далейшым належыць падаць новы іск.

Па расправе, калі на вуглу вуліцы паказаўся Мастовіч, сабраўшаяся таўпа народу сустрэла яго вельмі варожа. Забойцу ўзяў пад апеку галава польскіх сацыялістаў у Баранавічах п. Махай, які й адвёз Мастовіча да сябе на звошчыку.

**Самнясвой.**

## Самаўрады.

(Гарадзечанская вол. Навагрaдзкага павету).

У нашай гміне ад пачатку істнаваньня Польшчы да сёлетняга году панаваў назначаны старостай войт.

Іншыя гміны, дзе былі выбары, маюць на гэтых пасадах сваіх людзей,—людзей, што стараюцца аб патрэбах мужыка і што лічацца з мужыком, бо-ж ён іх выбіраў. Наш войт увесь час знаў толькі начальства, каторае яго паставіла, ды будаваўся, купіў сабе зямлі дзесяць дзесяцін і г. д. —Але, відаць, краў ён надта ўжо яўна, бо ў канцы агледзіўся і староста. Войт ня толькі паляцеў з пасады, але аддалі яго пад суд.

Мы і цешыліся, думалі: другі раз не пазволім ужо пасадзіць сабе на карк зладзея! Староста назначыў выбары, але паставіў трох сваіх кандыдатаў: двух абшарнікаў (Бэкера і Гутаровіча) і заступніка войта паляка Карповіча. Гмінная рада не згадзілася на гэтых кандыдатаў ды выбрала Янку Бірука, чалавека добра граматнага, дзеяльнага і не прадажнага.

Выбараў староста не зацьвярдзіў і назначыў другія. Узноў выбралі Бірука. Яшчэ ня ведама, што начальства скажа цяпер,—пэўна будзе зьбіраць трэці раз раду.

Мы ж пастанавілі дабіцца, як-бы там ні было, свайго чалавека.

**Селянін.**

## Зарабіў.

(Ялуская гм., Ваўкавыскага павету).

Прыяжджаў да нас нядаўна нейкі пан Пентак з партыі Домбскага. Сабраўшы некалькі сялян у хату, ён пачаў гаварыць аб цяжкай мужыцкай долі і аб тым, што трэба запісывацца ў ягоную партыю.

Перад сялянамі гэтыя паны ўмеюць прыкідывацца абаронцамі працуючага люду. Усе прысутныя ўважна слухалі, але ў кожнага было адно пытаньне: „добра, ты цяпер не „wyzwoleniec“, хочаш, як кажаш, змагацца за паляпшэньне сялянскага жыцьця; але чамуж ты ня злучышся з „Бел. Сял. Раб. Грамадой“, або з „Незалежнай Партыяй Хлопскай“, калі ты паляк?!

Прыкрае і няшчырае ўражаньне зрабіла і тое, што Пёнтак, хоць твар мае сыты, прыехаў абарваны, чуць ня босы, і жаліўся ўсім, што ня еў ужо тры дні.

Мо' гэта і так, але шмат хто не паверыў, каб запраўды ў Пентака гэтая бяда была.

Бачучы спачуцьце з боку некаторых, ён зараз папрасіў злажыць на партыйны фонд у яго рукі па злотаму. Знайшліся гэтакія людзі, што далі. Здаволены сваей „работай“ Пентак выехаў.

Ня верце людзі гэтай партыі, хоць яна яшчэ маладая,—ня ў той бок ідзе.

Перад сялянамі яны гавораць адно, а тымчасам зьнюхаліся з вядомымі ашуканцамі — П П С і тым жа самым „Wyzwoleniem“.

Мы маем арганізацыі, якія паказалі ўжо сябе, дык туды нам і трэба ўступаць.

**А. І.**

## „Нашы“ асаднікі.

(Ваўкавыскі павет).

У асадзе „Наталіна“, Падароскай воласьці, жыве „высокая і культурная“ асоба—пан палкоўнік Пшэдзецкі.—Хадзілі да яго нейкі час дзяўчаты на работу. Спачатку ўсё было добра, „быдла“ працавала, а яснавяльможны палкоўнік ляжаў сабе брухам уверх; але як прыйшлося плаціць—сапсавалася! Ніхто грошаў не атрымаў, а аднэй дзяўчыне, якая вельмі надаядала,—пан палкоўнік асабіста даў фігу, заплаціў, як кажуць у нас, панскім золатам“.

Асаднік А. Вінэнт наняў кватэру ў аднэй вёсцы, бо, змарнаваўшы 2000 зл. запамогі і пазыкі,—ён ня здолеў пабудаваць сабе нат' хаты.

Засеўшы ў чужым доме, гэты панок і плаціць ня хоча, і выхадзіць ня думае. Гаспадыня ня ведае, што рабіць, падасьць пэўна ў суд.

Вось якую „культуру разводзяць у нас асаднікі, вырваўшы мясцоваму сялянству з-пад носа зямлю.

**Эс. — эс.**

## Здраднікі.

(В. Жыдомля, Гарадзенскага пав.).

Пасьля вялікіх арыштаў у 1925 годзе — настала і ў нашай вёсцы правадыроў.

Карыстаючыся гэтым, тутэйшы польскі вучыцель пачаў дурыць сялянам галовы і працуе над гэтым увесь час.

Кажа ён, што без паноў ніколі ня можна абыйсьціся, ня будзе парадку, і што ў Польшчы з кожным годам лягчэй жыць. Мы яму ня дзіваліся. Ён урадовец і выпаўняець урадовую палітыку. Мы без яго бачым, што панам і фабрыкантам у Польшчы добра жывецца, ды з каго яны бяруць грошы, хто за гэта пакутуе, таксама ведаем...

Тутка хочам зьвярнуць увагу на другое. Знайшліся ў нас людзі, якія падлізываюцца вучыцелю, спадзяючыся, што мо' і ім за гэта з панскага стала пападуцца аб'едкі. Гэта Уладзімір Мышка, Надзя і Любоў Гарошка ды іх бацька, які ў дзень 3-га мая крычаў: „Няхай жыве Польшча, няхай жыве 3-ці май“.

Трэба, каб аб іх ведалі ўсе, бо яны выслугуюцца панскім наймітам і ня ідуць разам з суседзямі — сялянамі.

**Ж. Т.**

# Думкі аб каапэрацыі.

(*Голас каапэратара*).

Няможна сказаць, што каапэрацыя ўжо зававала ў нас сымпатыі пасярод шырокіх масаў насяленьня. Яшчэ многа, многа трэба палажыць працы ў гэтай галіне, каб зламаць, разьбіць усё тое, што перашкаджае разьвіцьцю каапэратыўнага руху. Дзеля гэтага патрэбны час і адпаведныя людзі.

Рэч зразумелая: у нас, ня тое, што ў Заходняй Эўропе, дзе каапэрацыя нарадзілася ў другіх—натуральных варунках; у нас дагэтуль ня было, дый цяпер няма, патрэбных дзеля разьвіцьця каапэратыўнага руху абставін. Грымоты гарматаў, штыхі ды атручаныя газы выклікалі ў нас каапэрацыю да жыцьця. І, як дзіця, пачатае пры ненармальных абставінах, расьце кволае і паддатлівае розным хваробам, так і нашая каапэрацыя, народжаная пры ненармальным палажэньні краю, дагэтуль ня ўсілах змацаваць, затрымаваць свой кволы, паддатлівы хваробам арганізм. Трэба шмат часу, каб гэты арганізм вылячыць ад гэных хранічных хваробаў.

Ці-ж гэта не хвароба дый не найгоршая, калі людзі дагэтуль глядзяць на каапэратыўнае прадпрыемства, як на нейкую добрадзейную інстытуцыю, якая павінна даваць ім усё патрэбнае чуць ня дарма? Ці ня чуеш дагэтуль: „я-ж гэтакую ласку ўсюды знайду, ды яшчэ лепшую: жыд дасьць удоўг“? Ці-ж гэта не хвароба, калі крамнік каапэратыву робіць надужыцьце, растрачывае на вялізную суму тавараў, а агульны сход, замест яго цакараць, пад уплывам аднаго з павадыроў арганізацыі пастанаўляе выскаць падзяку за „сумленную“ працу крамніка?! І многа, многа йшчэ сядзіць у целе каапэрацыі хвароб, якія трэбуюць радыкальных лекаў.

Трэ лячыць і лячыць хутка, радыкальнымі срэдствамі. Лячэньне не безнадзейна, да факты жыцьця паказваюць, што, ня гледзячы на ўсе хваробы, на ўсе ненармальнасьці, ідэя каапэрацыі жыва ў нашым народзе. Яе толькі трэ' распаліць, разьвіць вывясьці на належны шлях.

Шкада, што ў нас няма адпаведных дахтароў — інструктароў, няма нашай ўстановы, шчыра спрыяючай нашаму каапэратыўнаму руху, якая-б і ўзялася лячыць гэныя хваробы, якая-б на ўсякую ненармальнасьць адгукнулася і зараз-жа паправіла зробленую памылку, няправільны крок. Трэба, мусіць, і тут кінуць нам спадзявацца на каго-колечы, трэ' самім, тымі сіламі, якія маем яшчэ ў запасе, узяцца за справу і за працу. Трэба пры пасрэдніцтве нашай газэты адкрыць наход проці ўсялякіх ненармальнасьцяў у каапэратыўным руху, вясьці прапаганду каапэратыўных ідэй, устрайваць як можна часьцей лекцыі па каапэрацыі. Верым, што гэта паможа вывесьці каапэрацыю на адпаведны шлях!

**Гай.**

*Глыбокае.*

# БІБЛІАГРАФІЯ.

**„КОЛАС“**—Вучнёўская часопісь Радашкоўскай Беларускай Гімназіі № 1. Травень 1926 г.

Зьмест часопісі наступны: перавод „Да сяброў“— М. Тарасюк. „Скалыхнуўся бор“ верш М. Е. „О край родны“ верш М. Тарасюк. „Песьня“ верш А. Магільніцкі. „Гэй наперад выступайма“ верш яго-жа. „Навальніца“ раск. М. Шч. „Дзе вы песьні вясёлыя?“ — А. Магільніцкі. „Вясна“ раск. Я. Тоўсьцік. „З вясной“ верш М. Е. „Вясна“ раск. таго-ж. „Што мне здаецца“ верш У. Пугач. „Трокі“ раск. Магільніцкага. „Каб я быў“... верш Магільніцкага. „Кірмаш“ раск. М. Тарасюк. „Страх“ верш С. Бацен. „Страх“ верш Магільніцкага. „З народных твораў“ запісаў. А. Бізюк. Рэбус.

З вонкавага боку часопісь робіць добрае ўражаньне. Адбіта добра і чыста. Рысункі слабаватыя. Няма пэрспэктывы. Што ж да зьместу, то трэба сказаць аб заганах. Перадусім кідаюцца ў вочы граматычныя і сінтаксычныя абмылкі. Вершы не пазбаўлены думкі, але з слабай версіфікацыяй. У некатсрых няма навет і лёгікі, так напр. у вершы: „З вясной“:

„Ветрык дуне, хмарак тонкіх
Раскалыша палатно.
Лучы сонца праз ваконца
Заглядаюць ува ўсіх дно“...

Шмат русіцызмаў і палянізмаў. Аднак-жа ўсе заганы даруюцца і зьмяншаюцца таму, што выдаюць ня студэнты і ня вучні старшэйшых клясаў, а малодшыя.

Чэсьць Вам, маладыя барацьбіты, — на вас наша надзея, Вы йшчэ можаце збудаваць, стварыць нешта новае. Вітаем вас ад шчырага сэрца і жадаем пасьпяваньня ў працы. Больш працы, больш высілкаў і з „Коласа“ будзе добры хлеб!..

Вучань Віл. Бел. Гім. **А. С.**

13./VI. 1926 г.
Вільня.



Адказны-Рэдактар: Т. Крачына.
Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.
Выдавец пасол на Сойм П. Мятла.